# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ
АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

20-га ЛІСТАПАДА 1928 г.



## № 5

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛКООПСАЮЗУ



# ХРОНІКА

△ У бягучым годзе ў сувязі з тым, што галоўныя таварныя масы хлеба знаходзяцца ва ўсходніх раёнах, а таксама ў сувязі з тым, што ў мінулым годзе к вясьне, калі завоз хлеба моцна скараціўся, запасы хлеба ў хлебазагатоўцаў аказаліся недастатковымі для здавальненьня мінімальных патрэб насельніцтва, НК Гандлю БССР сваей пастановай ад 3-XI-28 г. п а с т а н а в і ў стварыць да 1-га сакавіка 1929 г. рэзэрвны фонд у разьмеры 1900 вагонаў, з якіх:

а) для гарадзкога насельніцтва 1000 ваг. (70 проц. жыта і жытняй мукі, 30 проц. пшанічнай мукі) з ускладаньнем яго хаваньня на Белрабсэкцыю 70 проц. і Саюзхлеб 30 проц.;

б) для ільнаводаў—500 ваг. жыта і жытняй мукі з ускладаньнем хаваньня на Белкоопсаюз;

в) для беднаты і батракоў—400 ваг. жыта з намольнага збору з ускладаньнем хаваньня на Белкоопсаюз.

△ Разьмер загатовак пуха і пяра на 1928-29 г. па БССР згодна пастановы Наркамгандлю БССР ад 1-XI-28 г., № 5 устаноўлен у 30 тон.

У загатоўцы ўдзельнічаюць наступныя організацыі: а) Белсельсаюз—18 тон; Белдзяржгандаль—9 тон; в) Белкоопсаюз—3 тоны.

Белкоопсаюз вядзе загатоўку шляхам прыёмкі сыравіны нізавымі коопэратывамі непасрэдна ад пярвічных трымацеляў, а таксама шляхам скупкі яе зборшчыкамі ў раёне дзейнасьці коопэратыву.

Усё зьбіраемае гусінае і вуцінае пух-пяро прызначаецца для экспорту і продажа яго на ўнутраным рынку, за выключэньнем адходаў, атрымліваемых пры сартыроўцы, забараняецца.

Гранічныя нормы накладных і гандлёвых выдаткаў па загатоўцы пуха-пяра франко-вагон ст. адпраўкі (уключаючы і каштоўнасьць крэдыту) устаноўлены: для коопэрацыі—17,5 проц., для Белдзяржгандлю—16,5 проц.

△ **Бюро хлебнай канвэнцыі** пры НК Гандлю БССР у сваім пасяджэньні ад 3 лістапада 1928 году ўстанавіла, замест часовых базысных кандыцый, якія дзейнічаюць зараз, **сталыя базісныя кандыцыі** на зерня, якое загатаўляецца ў 28-29 годзе.

**На жыта**—па Менскай, Бабруйскай, Гомельскай і Магілеўскай вакругах **натура зярня**—115 залатнікоў, **сьмяцьцёвая прымешка** для ніжэйшай чыстаты—2-3 проц., **зернявая прымешка** для сярэдняй чыстаты 1-2 проц., **вільготнасьць**—15,5—17 проц.; па Віцебскай, Полацкай і Аршанскай акругах **натура**—112 залатнікоў, **сьмяцьцёвая прымешка** для ніжэйшай чыстаты—5 проц., **зернявая прымешка і вільготнасьць** тыя-ж, што і ў вышэйпаказаных вакругах.

**На авёс**—па Менскай, Бабруйскай, Гомельскай, Віцебскай і Полацкай вакругах натура—71 зал., сьмяцьцёвая прымешка сярэдняй чыстаты—2-3 проц., **зернявая прымешка** сярэдняй чыстаты—3-4 процанта, вільготнасьць—16-18 проц.; па Магілеўскай і Аршанскай акругах натура—69 зал., сьмяцьцёвая прымешка ніжэйшай чыстаты—3-4 проц., зернявая прымешка сярэдняй чыстаты—3-4 процанты, вільготнасьць—14,5—16 проц.

**На ячмень піваварны**—па ўсіх вакругах натура—100 зал., сьмяцьцёвая прымешка сярэдняй чыстаты—2-3 процанты, зернявая прымешка ніжэйшай чыстаты—4-6 проц., вільготнасьць—15,5—17 проц.

**На ільнасемя**—па Віцебскай і Полацкай вакругах чыстата семя—92 процанты, сьмяцьцёвая прымешка—7,5 процантаў, зернявая—1 проц., вільготнасьць—12 проц.; па астатніх акругах чыстата семя—90 проц., сьмяцьцёвая прымешка—9,5 проц., зернявая—1 процант, вільготнасьць—12 проц.

Тэрмін увядзеньня ў жыцьцё гэтых кандыцый устаноўлен з 10 лістапада 1928 году.

△ Лясным аддзелам НКЗ дадзена распараджэньне ўсім Акрза аб абавязковым здавальненьні ў першую чаргу патрэбнай колькасьцю апалу для сушкі ільну сялян-ільнаводаў, асобна кантрактуючых свае пасевы.

Абежнікам сваім ад 31-X-28 г. за № 1725 лясны аддзел НКЗ яшчэ раз пацьвярдзіў свае распараджэньне і прапанаваў усім Акрза прыняць рашучыя крокі да таго, каб дырэктыва ў адносінах сялян-ільнаводаў была безадкладна выканана.

Адказны рэдактар—**Оргкіраўніцтва БКС.**

Выдавец—**Белкоопсаюз.**

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43.

№ 5 | 20-га лістапада 1928 г. | № 5




## ДЫРЭКТЫВЫ БЕЛКООПСАЮЗУ

### Пра ўзаемаадносіны загатоўцаў.

*Усім Акрсельсаюзам і крэд. сельска-гаспадарчым т-вам.*
*Усім спажывсаюзам і спажывецкім т-вам.*
*Усім аддзяленьням, агентцвам і пунктам Дзяржгандбелу.*

Нармальнае становішча рынку, адсутнічаньне ажыятажу на ім, адхіленьне канкурэнцыі паміж асобнымі загатоўчымі арганізацыямі, бязумоўнае і дакладнае захаваньне ўстаноўленых цэн, таксама дырэктыва ў адносіне якасьці прыймаемага тавару—зьяўляецца важнейшай умовай, якая вызначае посьпех загатоўчай кампаніі.

Вопыт мінулых гадоў паказвае, што ў гэтым напрамку справа абстаіць вельмі дрэнна. Ажыятаж і канкурэнцыя і іншыя, якія раджаюцца імі, няспрыяючыя зьявішчы адбіваліся надта кепска на выніках загатоўкі.

Цэлы шэраг рэпрэсыўных мер, якія прыняты рэгуліруючымі органамі адносна асоб і арганізацый, якія не захоўвалі ў час леташняй кампаніі дырэктыву ўрада і партыі ў галіне загатовак—здалося-б павінен быў палажыць канец усім гэтым ненармальным зьявішчам.

Аднак, паступаючыя з месц трывожныя весткі гавораць аб тым, што зьявішчы гэтыя далёка ня зьнішчаны, што і ў бягучай кампаніі назіраюцца ўжо выпадкі канкурэнцыі паміж асобнымі работнікамі розных загатоўчых арганізацый, што ізноў пачынаецца ажыятаж на рынку, незахоўваньне цэн, пераманьваньне сялян, адчыненьне недазволеных пунктаў і г. д.

Лічучы такое становішча зусім нецярпімым, прапануецца ўсім работнікам па ўсей лініі загатоўчай сеткі, будзь гэта кооперацыйнай, ці дзяржаўнай—спыніць зараз-жа і безагаворачна ўсе адзначаныя вышэй няпрыстойныя зьявішчы і канчаткова выкарчаваць гэтыя зусім недапушчальныя і шкодныя мэтады загатоўчай дзейнасьці.



Папярэджваем, што загатоўцы, прыкмечаныя ў такой недабрасумленнай рабоце, будуць зараз-жа зьнімацца з працы і прыцягнуты да

адказнасьці. Больш таго, у тых выпадках, калі ня ўдасца дакладна ўстанавіць з боку работніка якой арганізацыі пачалася канкурэнцыя, будуць зьняты з працы і прыцягнуты да адказнасьці работнікі абедзьвюх арганізацый. У гэтым напрамку ёсьць поўная дагаворанасьць паміж коопэрацыйным цэнтрам і праўленьнем Дзяржгандбелу.

Толькі пры ўмове накіраваньня ўсіх нашых патуг і энэргіі ў бок найбольш поўнага ахопу рынку, шляхам аб'езду глыбіных пунктаў і прыцягненьня ў русло дзяржаўных і коопэрацыйных загатаўцеляў усёй колькасьці сыравіны, якая зварочваецца па рынку, мы зможам выканаць ускладзеныя на нас заданьні.

Толькі дружнай і ўзгодненай работай прадстаўнікоў усіх загатоўчых арганізацый удасца пасьпешна вырашыць стаячыя перад намі задачы.

За Старшыню Праўленьня Белсельсаюзу **Талапіла.**

Старшыня Праўленьня Белкоопсаюзу **Наўлянскі.**

Нам. Старшыні Дзяржгандбелу **Лубуж.**

15 лістапада 1928 г. г. Менск.

## Аб удзеле спажывкоопэрацыі ў „культпаходзе“ і камсамольскім суботніку на карысьць школы.

*Усім організацыям спажывецкай коопэрацыі БССР.*
*Усім арганізацыям ЛКСМБ.*

Паважаныя таварышы!

Ленінскі камсамол з рабочай і сялянскай моладзьдзю ў Міжнародны Юнацкі Дзень пачаў двухмесячны „культурны паход“. Задачамі культпаходу зьяўляюцца: ліквідацыя няпісьменнасьці, барацьба з алкагалізмам, барацьба супроць бруду і г. д.

Пастаўленыя задачы перад „культурным паходам“ камсамолу вялікія і цяжкія. У іх вырашэньні неабходна прыняць удзел усім грамадзкім арганізацыям, у тым ліку і коопэрацыі.

Праўленьне Белкоопсаюзу сумесна з Цэнтральным Камітэтам Камсамолу Беларусі заклікае вас аказаць дапамогу ЛКСМ у наступным.

1) Барацьба з п'янствам, хуліганствам і інш. шляхам усіленьня культасьветнай працы ў клюбах, хатах-чытальнях, чырвоных і коопэрацыйных кутках, наладжваньне вечароў, спэктакляў, кіно сэансаў, радыё і г. д., а таксама шляхам скарачэньня продажу сьпіртусовых напіткаў у коопэрацыйных крамах, асабліва ў тых мяйсцох, дзе зьбіраецца шмат моладзі і працоўнага насельніцтва; забаронай продажу такіх у сьвяточныя дні; зьвішчэньнем продажу іх у коопэрацыйных крамах, сталовыхі, чайных і г. д.

2) Правядзеньнем сумесна з ячэйкамі ЛКСМ агляду санітарнага становішча магазынаў, крам, сталовых, чайных, дзіцячых установ і іншых коопэрацыйных прадпрыемстваў; усіленьнем у іх культурных элемэнтаў: кнігі, газэты, плякаты, лёзунгі, справачныя сталы, скрынкі і кнігі для скаргаў, кнігі запытаньняў і адказаў і г. д.

3) Падтрыманьне ініцыятывы камсамольскіх арганізацый у адчыненьні новых магазынаў, крам, аддзяленьняў, сталовых, чайных, дзіцячых устаноў і іншых.

4) Садзейнічаньнем камсамольскім ячэйкам у пашырэньні сярод моладзі коопэрацыйнай граматнасьці.

Разам з тым Праўленьне Белкоопсаюзу і ЦК ЛКСМБ рэкамэндуе ўсім коопэрацыйным арганізацыям скарыстаньне ячэек камсамолу і усей моладзі ў справе распаўсюджваньня кнігі, газэты, кіно, радыё і г. д.

Для правядзеньня вышэйпамянёных мерапрыемстваў вам неабходна цесна зьвязацца з камсамольскімі арганізацыямі на мясцох і прыняць удзел у складаньні пляпаў культпаходу.

Надаючы вялікае значэньне прадпрыймаемаму камсамолам культурнаму паходу, Праўленьне Белкоопсаюзу і ЦК ЛКСМБ упэўнены, што ў правядзеньні гэтай вялікай кампаніі з вашага боку камсамолу будзе аказана належная дапамога.

Нам. Старшыні Праўлёньня Белкоопсаюзу *Хаскін*

Сакратар ЦК ЛКСМБ *Галавач.*

№ 9775, ад 19/IX—1928 г.

---

## Пастанова Праўленьня Белкоопсаюзу ад 12/XI—28 г.

Улічваючы вялікую важнасьць „культурнага паходу“, які распачаты па ініцыятыве камсамолу, падкрэсьліваючы тое, што коопэрацыя павінна зьяўляцца магутным рухавіком асьветы і культуры сярод шырокіх працоўных мас насельніцтва, Праўленьне Белкоопсаюзу лічыць, што ўсе организацыі спажыўсыстэмы павінны прыняць самы актыўны і практычны ўдзел у правядзеньні «культурнага паходу» і камсамольскага суботніку на карысьць школы. Даручыць Оргкіраўніцтву праверыць як выконваецца організацыямі паказаньне Праўленьня БКС і ЦК ЛКСМБ ад 19-IX—28 году за № 9775 аб удзеле ў культурным паходзе.

Акрамя гэтага, выходзячы з дырэктыў Цэнтрасаюзу, Праўленьне БКС пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім арганізацыям з культурна-бытавых фондаў 1927—28 г. (як адлічэньняў з прыбыткаў, так і каштарысных адлічэньняў), выдзеліць ня менш 5 проц. для забесьпячэньня дзяцей пайшчыкаў—нізка аплачваемых рабочых, батракоў, бяднейшых сялян, дармовымі вучэбнымі падручнікамі і прыладамі (кнігі, алоўкі, сшыткі і г. д.). Асабліва нуждаючыхся з іх забесьпечыць абуткам, вопраткай і харчаваньнем. Для правядзеньня пералічаных мерапрыемстваў, прыцягнуць таксама сродкі пайшчыкаў (адлічэньні, ахвяраваньні і г. д.).

Адлічэньне сродкаў на вышэйпаказаныя мэты павінны адбыцца не пазьней 1-га сьнежня г. г. і разьмяркоўвацца сумесна з камсамольскімі арганізацыямі на мясцох.

2. Улічваючы неабходнасьць рэальна дапамагчы правядзенью камсамольскага суботніку на карысьць школы, адлічыць з прыбыткаў

1927—28 г. Белкоопсаюзу, Райсаюзаў і ЦРК 1 проц. у фонд камсамольскага суботніку для арганізацыі фабрычна-заводзкой школы 7-мі годкі імя «Спажывецкай Коопэрацыі Беларусі».

Паказаныя адлічэньні зрабіць не пазьней 1-га лютага 1929 г.

Даручыць Оргкіраўніцтву ўзгадніць з ЦК ЛКСМБ і НК Асьветы пытаньне аб арганізацыі памянёнай школы.

3. Усе арганізацыі сыстэмы павінны прадставіць моладзі і жадаючым дарослым, якія працуюць у гандлёвых і іншых прадпрыемствах спажыўкоопэрацыі, звышмерныя і зьдзельныя работы ў барысьць камсамольскага суботніку.

Перавозка тавараў і іншых цяжараў, разгрузка і нагрузка вагонаў транзітных адправак спажывецкімі арганізацыямі па ўзгадненьню з прафсаюзам павінны прадстаўляцца для камсамольскага суботніку.

4. Спажыўорганізацыям, у раёне дзейнасьці якіх знаходзяцца школы фабзавучу, школы сялянскай моладзі і буйныя школы сямігодкі і дзевяцігодкі, вызначыць практычныя мерапрыемствы па арганізацыі гарачых сьнеданьняў у паказаных школах, праз наладжваньне буфэтаў, сталовак і г. д.

5. Даручыць Оргкіраўніцтву зьвярнуцца з прызывам да ўсіх працаўнікоў і коопэрацыйнага актыву спажыўсыстэмы аб прыняцьці ўдзелу ў суботніку, стварыўшы навокал правядзеньня вышэйпаказаных мерапрыемстваў грамадзкую думку сярод коопэрацыйнага актыву.

---

## Аб працы сярод нацменшасьцяй вясковага насельніцтва БССР.

*(З рэзалюцыі Нацкамісіі ЦВК БССР ад 26-IX—28 г. па дакладу Белкоопсаюзу.)*

1. Нацкамісія ЦВК БССР даручае Белкоопсаюзу і Белсельсаюзу у далейшым для разьвіцьця і ўзмацненьня працы па коопэраваньні нацменшасьцяй наогул і ў прыватнасьці польскага і латыскага насельніцтва правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) Наладзіць сталы вучот працы па коопэраваньні нацменшасьцяй для мэтаў уяўленьня ступені коопэраваньня тэй ці іншай нацыянальнасьці, як агульных, гэтак і паасобных сацыяльных групах, для мэтаў уяўленьня ўдзелу нацменшасьцяй у коопэрацыйных органах, для ўяўленьня процанту коопэраваньня нацменшаўскіх гаспадарак і іншае.

Даручыць Белкоопсаюзу і Белсельсаюзу распрацаваныя імі формы вучоту гэтае працы ўнесьці на разгляд нацкамісіі ЦВК БССР.

б) Пры правядзеньні працы па ўзмацненьні коопэрацыйнага будаўніцтва сярод нацменшасьцяй, зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў коопэрацыйную працу нацменаўскай беднаты і батракоў; палепшыць падрыхтоўку работнікаў з нацменаў, шляхам прыцягненьня ў коопэрацыйныя тэхнікумы, больш шырока ўцягнуць нацменаў у кіруючыя коопэрацыйныя воргáны; прыступіць да выданьня адпаведнай коопэрацыйнай літаратуры на мовах нацменшасьцяй.

в) Устанавіць належную сувязь у цэнтры і на мясцох паміж кооперацыйнымі органамі і іншымі арганізацыямі, якія праводзяць працу сярод нацменшасьцяй.

2. Даручыць Белкоопсаюзу і Белсельсаюзу праз 6 месяцаў далажыць Нацкамісіі аб праведзеных імі мерапрыемствах па коопэраваньні нацменшасьцяй.

---

## Да ўсіх організацый спажывецкай коопэрацыі БССР.

Зьвяртаючы вашу ўвагу на неабходнасьць узмацніць на працягу бліжэйшага часу працу па коопэраваньні нацменшасьцяў, Оргкіраўніцтва БКС прапануе:

1. У кожным Райсаюзе, Аддзяленьні БКС і спажывецкім таварыстве павінен быць распрацован дэтальны плян коопэрацыйнай працы сярод нацменшасьцяў. У гэтых плянах павінны быць прадугледжаны ўсе моманты коопэраваньня, абслугоўваньня і прыцягненьня да актыўнай працы нацменшасьцяў у коопэрацыйных органах.

2. У працягу бліжэйшых 3-х месяцаў Райсаюзы і Аддзяленьні БКС павінны правесьці ўсебаковы агляд коопэрацыйнай працы ў нацыянальных польскіх і латыскіх сельсаветах.

3. На вучастковых інструктароў ускласьці абавязак стала кіраваць працай спажывецкіх таварыстваў свайго вучастку ў галіне коопэраваньня і абслугоўваньня нацменшасьцяў, заўсёды цікавіцца і ўдзяляць больш увагі гэтай працы пры абсьледваньнях і выкананьні іншых даручэньняў у спажывецкіх таварыствах. У інструктароў павінен мецца поўны вучот коопэрацыйнай працы сярод нацменшасьцяў па спажывецкім таварыствам свайго вучастку.

4. Райсаюзы і Аддзяленьні БКС павінны высьветліць, ці дастаткова гандлёвых пунктаў спажывецкіх таварыстваў у нацыянальных сельсаветах, і пры недастатковай сетцы іх пабудзіць спажыўтаварыства адчыняць новыя крамы ў мяйсцох жыцьця нацменшасьцяў, або прыблізіць да іх ужо маючыяся крамы.

5. У крамах спажывецкіх таварыстваў, якія існуюць у раёнах нацыянальных сельсаветаў, павінны быць адчынены асобыя кніжныя аддзелы або кніжныя паліцы, у якіх было-б дастаткова літаратуры на мовах адпаведных нацменшасьцяй.

6. Неабходна прыняць меры, каб працаўнікі крам спажывецкіх таварыстваў, працуючых у раёнах, дзе жывуць нацменшасьці, ведалі таксама мову адпаведнай нацменшасьці.

7. Поўны ўсебаковы даклад аб выніках агляду коопэрацыі ў нацыянальных сельсаветах і працы Райсаюзаў і спажывецкіх таварыствах сярод нацменшасьцяў павінен быць Райсаюзамі і Аддзяленьнямі БКС прыслан Оргкіраўніцтву не пазьней 1-га сакавіка 1929 г.

ОРГКІРАЎНІЦТВА БЕЛКООПСАЮЗУ.

*Зацьверджаны Праўленьнем Белкоопсаюзу, прат. № 30/160 узгоднены з НКФ БССР.*

## Правілы пра ўкладныя опэрацыі спажывецкага таварыства.

### I. Агульныя палажэньні.

1. На падставе пастаноў СНК СССР ад 16 жніўня 1928 г. і СНК БССР ад 17 верасьня 1928 г. («Изв. ЦИК СССР» 28 г. № 216 і «Савецкая Беларусь» 28 г. № 216) спажывецкае таварыства прымае ўклады толькі ад сваіх сяброў.

2. Унесеныя ўклады спажывецкае таварыства павінна скарыстоўваць выключна для разьвіцьця сваіх гандлёвых апэрацый ці зьмяшчаць у банк на бягучы рахунак.

Укладныя сумы ня могуць зьвяртацца на пакупку маёмасьці і іншых нярухомых каштоўнасьцяў і на мэты крэдытаваньня (выдача пазык, водпуск тавараў у крэдыт і інш.).

3. За прынятыя ўклады коопэратыў адказвае перад укладчыкам усімі сваімі капіталамі, пры чым, у выпадку недастачы капіталаў спажывецкага т-ва для здавальненьня прэтэнзій усіх крэдытораў, укладчыкі здавальняюцца ў першую чаргу пасьля выплаты рабочым і служачым заработнай платы, пэнсіі за калецтва і сьмерць і сацыяльнага страхаваньня.

*Увага.* 1. Усякія іншыя абавязацельствы коопэратыву, як-та: падаткі і зборы, запазычанасьць дзяржаўным і коопэрацыйным арганізацыям, прыватным фірмам і асобам, нават запазычанасьць банкам, забясьпечаная і незабясьпечаная залогам, выплачваюцца пасьля таго, як будуць здаволены ўсе ўкладчыкі.

2. Акрамя таго, Саюз, у склад якога ўваходзіць спажывецкае т-ва, гарантыруе зварот укладаў, унесеных у с.-т. ўсімі сваімі капіталамі.

4. Імя і прозьвішча ўкладчыкаў, унесеныя імі сумы ўкладаў, усе разьлікі па ім хаваюцца ў суровай тайне ад пабочных асоб. Усякія спраўкі аб укладчыках і ўкладах выдаюцца толькі самім укладчыкам, іх законным прадстаўнікам, а таксама судовым і судова-сьледчым органам па вытвараючымся ў іх крымінальным справам. За парушэньне тайны ўкладаў вінаватыя сябры праўленьня і служачыя коопэратыву, а таксама асобы, вытвараючыя рэвізіі коопэратыву, нясуць крымінальную адказнасьць па 117 і 105 арт. Крымінальнага Кодэксу.

5. Унесеныя ў коопэратыў уклады знаходзяцца ў поўным і свабодным распараджэньні ўкладчыкаў; пералічэньне ўкладу, ці часткі яго ў пакрыцьце запазычанасьці ўкладчыка спажывецкаму т-ву па іншым апэрацыям можа вытварацца толькі са згоды ўкладчыка.

3. Затрыманьне і арышты ўкладаў могуць рабіцца толькі па пастанове судовых і судова-сьледчых органаў па крымінальным справам (напрыклад, калі ўкладчык грошы ўкраў і палажыў іх у т-ва і ў падобных выпадках), а таксама па выканаўчым лістам аб узысканьнях з укладчыка яго запазычанасьці коопэратыву, прыняўшаму ўклад.

## II. Віды ўкладаў.

7. Уклады прымаюцца: а) да вытрабаваньня (бестэрмінова) і б) тэрміновыя (на тэрмін ня меньш трох месяцаў).

8. Уклады прымаюцца коопэратывам у любой суме, але на асабовым рахунку ўкладчыка ня можа заставацца менш аднаго рубля.

9. Уклад да вытрабаваньня выдаецца ўкладчыку поўнасьцю ці часткамі, па першаму яго патрабаваньню, але аб вытрабаваньні ў вадзін прыём звыш 250 руб., укладчык павінен папярэдзіць праўленьне коопэратыву ня меньш, чым за 2 дні.

10. Тэрміновыя ўклады зварочваюцца ўкладчыкам па сканчэньні тэрміну, на які яны ўнесены.

Пры магчымасьці праўленьне коопэратыву можа выплаціць тэрміновы ўклад, па жаданьню ўкладчыка, і раней умоўленага тэрміну, пры чым у гэтых выпадках процанты па ўкладу выплачваюцца, як па ўкладу да вытрабаваньня.

Тэрміновы ўклад, нявытрабаваны ў тэрмін, лічыцца ўкладам да вытрабаваньня. Процанты па такому ўкладу, з дня наступленьня тэрміну, налічваюцца, як на ўклад да вытрабаваньня.

## III. Процанты па ўкладам.

11. Процанты па ўкладам устанаўляюцца праўленьнем спажывецкага таварыства ў разьмерах, не правышаючых процантных ставак, прынятых у сел.-гаспадарчых крэдытна-коопэрацыйных таварыствах, знаходзячыхся ў раёне дзейнасьці спажывецкага т-ва. У мяйсцовасьцях, дзе крэдытных таварыстваў няма, процанты па ўкладам не павінны правышаць наступных ставак:

| | |
|---|---|
| Па ўкладах да выпатрабаваньня . . . | 9 проц. |
| Па тэрміновых укладах да 6 мес. . . | 10 « |
| » » » ад 6 да 12 мес. | 11 « |
| Па ўкладах на тэрмін звыш 12 мес. . | 12 « |

12. Процанты па ўкладам налічаюцца за поўныя рублі і за фактычны лік поўных днёў знахаджэньня ўкладу ў коопэратыве. Налічаныя процанты выд[а]юцца ўкладчыку адзін раз у год пасьля 1 кастрычніка. Раней 1-га кастрычніка процанты выдаюцца толькі пры канчатковым разьліку па ўкладу.

13. Ня вытрабаваныя ўкладчыкам пасьля 1 кастрычніка процанты далучаюцца да сумы яго ўкладу і з кастрычніка на іх таксама налічаюцца процанты.

14. Аб усякай зьмене процантных ставак па ўкладам праўленьне С. Т. зараз-жа вывешвае аб'яву ў памяшканьні таварыства і іншых грамадзскіх мяйсцох, пры чым, у выпадку памяншэньня разьмеру процантаў па ўкладам да вытрабаваньня, новы разьмер процантаў дапасоўвацца к раней унесеным укладам не раней, чым праз месяц пасьля паведамленьня ўкладчыкаў аб памяншэньні разьмеру процантаў. Разьмер процантаў па прынятым тэрміновым укладам ня можа быць паменшаны да наступленьня іх тэрміну.

## IV. Парадак прыёму і выдачы ўкладаў.

15. Кожнаму ўкладчыку пры прыёме ўкладу выдаецца іменная укладная кніжка, у якую запісваюцца ўсе ўзносы і налічэньні процантаў і ўсе выдачы па ўкладу. Пры канчатковым разьліку па ўкладу, укладная кніжка адбіраецца і на ёй робіцца адзнака аб выплаце ўкладу, пасьля чаго яна хаваецца ў справах коопэратыву.

Пры ўсякіх спрэчках і непаразуменьнях укладная кніжка зьяўляецца адзіным доказам становішча ўнесенага ў коопэратыў укладу.

16. У выпадку згубы або кражы ўкладной кніжкі, укладчык павінен зараз-жа ў пісьмовай форме заявіць аб гэтым праўленьню коопэратыву. Замест згубленай кніжкі праўленьне выдае ўкладчыку праз тыдзень новую ўкладную кніжку, згодна асабовага рахунку ўкладчыка, які маецца ў коопэратыве. На кніжцы адзначаецца, што яна выдана замест згубленай ці ўкрадзенай.

*Увага*: Праўленьне коопэратыву, пры паступленьні заявы ад укладчыка аб згубе ці кражы ўкладной кніжкі, павінна зараз-жа паведаміць аб гэтым усе свае аддзяленьні, вытвараючыя ўкладныя апэрацыі.

17. Укладчыкам лічацца асоба, на імя якой унесен уклад і выдана ўкладная кніжка. Узносы за ўклады прымаюцца як ад самога ўкладчыка, так і ад пабочнай асобы ці ўстановы, але права распараджацца ўкладам мае толькі тая асоба, на імя якой уклад запісаны.

*Увага*: Ад непоўналетніх (да 18 год) сяброў коопэратыву ўклады прымаюцца толькі да вытрабаваньня. На імя непоўналетніх асоб уклады могуць быць унесены іх бацькамі і апякунамі, якія і распараджаюцца гэтымі ўкладамі да наступленьня поўналецьця непоўналетніх асоб. Пры гэтым неабходна, каб хто небудзь з іх (непоўналетнія ці іх бацькі, апякуны) былі сябрамі коопэратыву.

18. Прыём і выдача ўкладаў вытвараецца ў канторы коопэратыву і тых аддзяленьнях (лаўках), якія будуць вылучаны для гэтага праўленьнем т-ва. Канчатковы разьлік па ўкладу і выдача процантаў вытвараецца толькі ў канторы коопэратыву.

19. Па сканчэньні гаспадарчага году (г. зн. 1 кастрычніка) на працягу 2-х м-цаў укладчыкі павінны прад'явіць у кантору коопэратыву ўкладныя кніжкі для праверкі запісаў па асабовым рахункам і ўнясеньня ва ўкладную кніжку запісаў аб сумах налічаных процантаў.

20. Уклад выдаецца кожнай асобе прад'явіўшай укладную кніжку і расьпіску ўкладчыка аб атрыманьні ўклада, пры гэтым коопэратыў абавязан упэўніцца ў сапраўднасьці подпісу ўкладчыка, на расьпісцы, шляхам зьверкі яе з абразцом подпісу ўкладчыка, маючагася у коопэратыве.

21. У выпадку сьмерці ўкладчыка, уклад і проценты па ім выдаюцца яго законным насьледнікам, ці той асобе, якой укладчык адказаў уклад пры яго ўнясеньні ў коопэратыў. У апошнім выпадку не патрабуецца, каб гэтая асоба ўваходзіла ў колы законных насьледнікаў укладчыка.

---

*Зацьверджана Праўленьнем Белкоопсаюзу, пратакол № 30/160*

# Інструкцыя пра вучот і афармленьне ўкладных апэрацый у спажывецкім таварыстве.

1. Вучот і афармленьне ўкладных апэрацый у спажывецкім таварыстве павінны абсалютна дакладна і сваячасова адбіваць усе апэрацыі па ўкладах. Дзеля гэтага вядуцца наступныя дакуманты і кнігі па формах, якія устаноўлены Белкоопсаюзам: а) прыходныя і выдатковыя ордэры для афармленьня атрыманьня і выдачы ўкладаў; б) укладныя кніжкі для выдачы на рукі ўкладчыку; в) кніга ўкладаў для вучоту разрахункаў з кожным укладчыкам паасобку.

2. Прыём і выдача ўкладаў вытвараюцца па прыходным і выдатковым ордэрам, якія запаўняюцца ў двох экзэмплярах самім укладчыкам. Прыходныя і выдатковыя ордэры падпісваюцца ўкладчыкам і асобай, якая прымае альбо выплачвае ўклад. Пры першапачатковым узносе укладчыкам запаўняецца і адваротны бок прыходнага ордэру, дзе ён ставіць узор свайго подпісу. Па просьбе ўкладчыка ордэры могуць запаўняцца рахункаводам альбо іншай асобай, якая афармляе апэрацыю.

3. Кожнаму ўкладчыку выдаецца на рукі іменная ўкладная кніжка, якая адбіраецца пры канчатковым разьліку па ўкладах, з адзнакай на кніжцы аб выплаце ўкладу. У кніжку запісваюцца ўсе ўзносы і налічэньні процантаў і ўсе выдачы па ўкладу.

На вокладцы кніжкі адзначаецца яе нумар і найменьне ашчэднага пункту, дзе выдана кніжка. На першай загалоўнай старонцы акрамя гэтага адзначаецца прозьвішча, імя і па бацьку ўкладчыка. На гэтай-жа старонцы ставіцца пячатка коопэратыву і подпіс члена праўленьня і бухгальтара-рахункавода. Пасьля кожнай запісі прыёму альбо выдачы ўкладу выводзіцца астатак лічбамі і прописамі і ставіцца подпіс адказнай асобы, прыняўшай альбо выдаўшай грошы (казначэй, загадчык крамы і г д.).

> *Увага*: Укладныя кніжкі з подпісамі членаў праўленьня і бухгальтара, замацаваныя пячаткай спажыўтаварыства, выдаюцца ва ўсе пункты, дзе вядуцца ўкладныя апэрацыі, пад асобную адказнасьць упаўнаважаных праўленьнем асоб.
>
> У канторы коопэратыву вядзецца вучот блянак гэтых кніжак па правілам вучоту блянак строгай справаздачнасьці.

4. Ніякіх паправак, падчыстак і памарак на першай загалоўнай старонцы ўкладной кніжкі не дазваляецца. Пры дапушчэньні памылкі выдаецца новая кніжка, а блянк папсаванай пагашаецца і пад расьпіску здаецца казначэю коопэратыву. Памылкі, дапушчаныя ў запісах апэрацый ва ўкладных кніжках, папраўляюцца, аб чым робіцца адпаведная агаворка. Запісы ва ўкладных кніжках і асабовых рахунках вытвараюцца атрамантам.

5. Запісы апэрацый па асабовым рахункам кнігі ўкладаў і адчыненьне новых рахункаў вытвараюцца ў канторы праўленьня спажыўтаварыства, згодна прыходных і выдатковых ордэроў, якія прадстаўляюцца ашчэднымі пунктамі коопэратыву.

> *Увага*: Прыходныя і выдатковыя ордэры па ўкладным апэрацыям прадстаўляюцца ў контору адначасова з агульнай справаздачнасьцю па гандлёваму пункту спажыўтаварыства.
>
> Карашкі прыбытковых і выдатковых ордэроў застаюцца ў пунктах, вытвараючых укладныя апэрацыі для справак і кантролю пры выдачы ўкладаў.

6. Налічэньні процантаў вытвараюцца ў асабовым рахунку пасьля кожнай апэрацыі. Проценты на ўклад налічваюцца з дня, які ідзе за днём паступленьня ўкладу. За дзень, у які ўклад выдан, проц. не налічваюцца. Месяц пры разрахунках прымаецца за 30 дзён, год за 360 дзён.



7. У выпадку звароту судом спагнаньня на ўклад, альбо на проц. з яго, спажыўтаварыства выдае грошы ўрадавай асобе толькі па прад'яўленьні выканаўчага ліста альбо замяняючага яго дакумэнту і атрымлівае ўстаноўленую квітанцыю. Адбітак выканаўчага ліста альбо замяняючага яго дакуманту і квітанцыі застаюцца ў справах коопэратыву ў якасьці апраўдальных дакумэнтаў.

8. Праўленьне і рэвізыйная камісія вытвараюць пэрыядычныя і непэрыядычныя праверкі працы ашчадных пунктаў,

9. Па галоўнай кнізе ўклады праводзяцца па рахунку „ўклады і займы". Веды аб агульнай суме ўкладаў, колькасьці ўкладчыкаў і разьмерах процантаў, якія выплачваюцца па ўкладам, прадстаўляюцца толькі вышэйстаячым коопэрацыйным арганізацыям па ўстаноўленым формам.

---

*Зацьверджана Оргкалегіяй БКС*
*5-га лістапада 1928 г. прот. № 3.*

## Інструкцыя пра запаўненьне месячнай карткі „Асноўныя паказацелі дзейнасьці спажывецкага таварыства" (ф. № 4).

1. Картку абавязаны запаўняць усе спаж. т-вы і высылаць свайму Саюзу не пазьней 5-га чысла кожнага месяца за мінулы месяц.

2. Калі на пытаньне тэй ці іншай графы адказу няма, дык рысак ставіць ня трэба, а ў адпаведную графу належыць напісаць „няма" ці „ня было". Напрыклад, калі астачы нескарыстанага ФКБ у спаж. т-ве няма, то ў гр. 5 належыць напісаць „няма" і г. д.

3. Зьвесткі па гр. гр. 1, 2, 3, 4, 5, 6, і 9 даюцца па даным на канец м-ца (г. зн. ітогам за ўвесь час), а па гр. гр. 7, 8 і 10—толькі за даны месяц.

4. Па гр. 4 пад „агульнай сумай ФКБ на канец м-ца" належыць разумець суму, якая складаецца з: а) сумы, выдзеленай у ФКБ з прыбыткаў т-ва за мінулыя гады, б) пазыкі, атрыманай у ФКБ ад Саюза альбо іншай арганізацыі, і в) сум, якія выдзелены спаж. т-вам з прыбыткаў бягучага году.

5. Па гр. 5 пад „Астачай нескарыстанага ФКБ належыць разумець суму, якая складаецца шляхам вылiку з агульнай сумы фонду яе скарыстанай часткі (дэбет рахунку „пайшчыкі за пазыкі з ФКБ") і з дабаўленьнем той часткі фонду, якая ўжо зьвернута пайшчыкамі-беднякамі (крэдыт таго-ж рахунку).

6. Весткі па гр. гр. 6 і 7 даюцца ў прадажных цэнах, а па гр. 8—па загатоўчай цане.

---

## Пра гандлёвую рэгістрацыю спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый.

*Усім організацыям спажывецкай коопэрацыі БССР.*

Ніжэй зьмяшчаецца інструкцыя Наркамгандлю БССР аб новым парадку гандлёвай рэгістрацыі спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый, **якая з 1-Х—28 г. замяніла існаваўшую да гэтага часу рэгістрацыю статутаў**, арганізацыйнае кіраўніцтва Белкоопсаюзу прапануе ўсім організацыям спажывецкай коопэрацыі БССР прыняць гэтую інструкцыю да дасканалага і абавязковага выкананьня.

**Організацыйнае кіраўніцтва БКС.**

№ 13420, 15-XI—28 г.

# Інструкцыя аб парадку гандлёвай рэгістрацыі спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый.

1. На падставе пастановы СНК БССР за 27 верасьня 1928 г. «аб увядзеньні ў сілу на тэрыторыі БССР пастановы СНК СССР аб пашырэньні Палажэньня аб гандлёвай рэгістрацыі на спажывецкую коопэрацыю» «Сав. Беларусь» за 2/X-1928 г. № 227 і ў адпаведнасьці з пастановаю СНК СССР за 17 жніўня 1928 г. «аб пашырэньні Палажэньня аб гандлёвай рэгістрацыі на спажывецкую коопэрацыю» (Зб. Зак. СССР 1928 г. № 53. арт. 478) гандлёвая рэгістрацыя спажывецкіх таварыстваў і іх саюзаў на тэрыторыі БССР павінна вытварацца ў наступным парадку.

2. Гандлёвая рэгістрацыя спажывецкіх таварыстваў вытвараецца адпаведнымі акруговымі інспэктарамі гандлю па месцу знаходжаньня Праўленьня рэгіструемай арганізацыі па 3 разьделу гандлёвага рэестру.

Гандлёвая рэгістрацыя саюзаў спажывецкіх таварыстваў (раённых, акруговых і рэспубліканскага) вытвараецца НКГандлю БССР па 2 разьдзелу гандлёвага рэестру.

3. У парадку аснаўной рэгістрацыі спажывецкіх таварыстваў і іх саюзаў у гандлёвы рэестр падлягаюць унясеньню наступныя зьвесткі: а) № па рэестру; б) дата рэгістрацыі; в) фірменнае найменьне рэгіструемай арганізацыі, г) прадмет і раён дзейнасьці, д) разьмер уступнага і паявога ўзносаў, е) колькасьць членаў, ж) разьмер дадатковай адказнасьці членаў рэгіструемай арганізацыі па яе абавязкам, з) імена, па бацьку і прозьвішча членаў Праўленьня рэгіструемай арганізацыі, і) месца знаходжэньня Праўленьня, к) найменьне і месцазнаходжаньня філіалаў, а таксама гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў рэгіструемай арганізацыі, л) дазвол на вядзеньне гандлёвага ці прамысловага прадпрыемства альбо іншага гандлёвага промыслу, калі неабходнасьць такога дазволу спэцыяльна прадугледжана законам, м) зьвесткі аб прыняцьці статуту рэгіструемай арганізацыі сходам устанавіцеляў, а ў выпадках, калі, згодна існуючаму законадаўству, трэба зацьверджаньне статуту ўрадам, зьвесткі аб гэтым зацьверджаньні і н) сьпісак устанавіцеляў рэгіструемай арганізацыі.

4. У парадку бягучай рэгістрацыі ўнясеньню ў гандлёвы рэестр падлягаюць наступныя зьвесткі: а) зьмяненьне ўнесеных у гандлёвы рэестр у парадку асноўнай рэгістрацыі зьвестак, б) зьмяненьне і дапаўненьне статутаў зарэгістраванай арганізацыі і в) аб спыненьні (зьліцьці, паддзяленьні, альбо ліквідацыі) дзейнасьці зарэгістраванай арганізацыі.

5. Заявы аб гандлёвай рэгістрацыі павінны быць паданы не пазьней двух тыдняў з часу наступленьня тых фактаў, якія падлягаюць рэгістрацыі, згодна 3 і 4 арт. арт. гэтай інструкцыі, пры чым у гэтых заявах паведамляюцца паказаныя ў 3 і 4 арт. арт. зьвесткі.

6. Да заявы аб аснаўной рэгістрацыі павінны быць прадстаўлены: а) аўтэнтычны статут рэгіструемай арганізацыі і копія яго за подпісамі ўсіх членаў Праўленьня гэтай арганізацыі, б) дзьве пасьведчаныя Праўленьнем рэгіструемай арганізацыі копіі пратаколу сходу ўстанавіцеляў аб прыняцьці статуту, в) сьпіс устанавіцеляў і сяброў рэгіструемай арганізацыі, пасьведчаны праўленьнем, г) заключэньне вышэйстаячага саюзу Спажывецкіх таварыстваў аб мэтазгоднасьці ўстанаўленьня рэгіструемай арганізацыі, д) у выпадках, прадугледжаных п. «л» 3 арт. гэтай інструкцыі, адпаведнае пасьведчаньне належных органаў, е) пасьведчаная копія пастановы адпаведных органаў улады аб зацьверджаньні статуту рэгіструемай арганізацыі (п. «м» 3 арт.) і ж) даведка Праўленьня рэгіструемай арганізацыі па п. п. «з», «і», «к» арт. 3 інструкцыі.

7. Зьвесткі па бягучай рэгістрацыі павінны быць падцьверджаны двумя пасьведчнымі копіямі пратаколаў агульных сходаў ці схо-

даў упаўнаважаных зарэгістраванай арганізацыі аб прыняцьці дапаўненьняў ці зьмяненьняў статуту альбо аб спыненьні дзейнасьці зарэгістраванай арганізацыі.

Увага: Пры заяўках аб рэгістрацыі спыненьня дзейнасьці зарэгістрав. арганізацыі (зьліцьці, падзяленьні, альбо ліквідацыі) павінна быць прадстаўлена заключэньне вышэйшага саюзу спажывецкіх таварystваў аб мэтазгоднасьці спыненьня і выкананьня патрабаваньня 35 і 36 арт. арт. Палажэньня аб парадку спыненьня коопэрацыйных арганізацый (Зб. Зак. СССР 27 г. № 37 арт. 372).

8. Да заявы аб рэгістрацыі спажывецкай коопэрацыйнай арганізацыі павінен быць дададзен квіток адпаведнага па месцу рэгістрацыі акруговага фінансавага аддзелу аб узносе рэгістрацыйнага збору: пры асноўнай рэгістрацыі спажывецкіх таварystваў—10 руб. і саюзаў—25 руб., а пры бягучай рэгістрацыі спажывецкіх таварystваў— 3 р. і саюзаў іх—5 руб.

9. У паказаных у 6 і 7 пратаколах сходаў устанавіцеляў ці агульных сходах альбо сходах упаўнаважаных спажывецкай коопэрацыйнай арганізацыі абавязкова павінна быць паказана: а) лік устанавіцеляў ці сяброў; альбо ўпаўнаважаных, якія прысутнічалі на сходзе, а таксама агульны лік іх на дзень сходу, б) лік галасоў, паданых за прыняцьцё рэгіструемай пастановы сходу і в) які па парадку гэты сход адбыўся (першы, другі, трэці і г. д.).

10. Унесеныя ў гандлёвы рэестр у парадку гэтай інструкцыі зьвесткі павінны быць у скарочаным відзе апублікаваны: зьвесткі, унесеныя ў другі разьдзел гандлёвага рэестру, у газ. «Сав. Беларусь», а зьвесткі, унесеныя ў трэці разьдзел гандлёвага рэестру, у мясцовай (па месцу рэгістрацыі) афіцыйнай газэце.

Публікацыя вытвараецца за кошт рэгіструемай арганізацыі органамі гандлёвай рэгістрацыі, зрабіўшымі ўнясеньне ў гандлёвы рэестр даных зьвестак.

11. Спажывецкія таварystвы і іх саюзы, зарэгістраваныя да першага кастрычніка гэтага году ў камісіі па рэгістрацыі спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый пры НКГандлю БССР у парадку пастановы СНК БССР за 14 студзеня 1925 г. «аб парадку рэгістрацыі спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый» (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 9, арт. 85), пераносіцца ў парадак аснаўной рэгістрацыі непасрэдна ў адпаведны разьдзел гандлёвага рэестру паводле паведамленьняў НКГандлю БССР, прычым прадугледжаная 10 арт. гэтай інструкцыі публікацыя не вытвараецца.

12. Орган гандлёвай рэгістрацыі не пазьней 2-х тыдняў па атрыманьні заяў аб рэгістрацыі з дадзенымі да іх неабходнымі, паказанымі ў гэтай інструкцыі, зьвесткамі і дакумантамі павінен зарэгістраваць альбо адмовіць у рэгістрацыі з паказаньнем матываў адмовы ў пісьменнай форме.

13. Адмова ў рэгістрацыі можа быць зроблена ў наступных выпадках: калі прадстаўленыя да рэгістрацыі зьвесткі супярэчаць закону; нармальнаму статуту спажывецкіх коопэрацыйных арганізацый, альбо патрабаваньням гэтай інструкцыі, а таксама і тады, калі непрадстаўлены ў азначаны орган гандлёвай рэгістрацыі тэрмін неабходныя зьвесткі і дакумэнты, якія ня былі прадстаўлены пры заяве.

14. На неправільныя дзеяньня органаў гандлёвай рэгістрацыі могуць быць пададзены скаргі на акруговых інспэктароў гандлю ў НКГандлю БССР, а на апошняга—у Народны Камісарыят Замежнага і Ўнутранага гандлю СССР.

Нам. Наркамгандлю БССР **Абрамсон.**

Сакратар **Верамейчык.**

# ДЫРЭКТЫВЫ БЕЛРАБСЭКЦЫІ

*Зацьверджана Прэзыдыумам Белрабсэкцыі 10-XI—28 г., пратакол № 4.*

## Пра грамадзкае харчаваньне ў рабочай коопэрацыі БССР.

*(Пастанова Усебеларускай Нарады па грамадзкаму харчаваньню).*

1. Нарада адзначае, што ў працы па грамадзкаму харчаваньню маецца шэраг паляпшэньняў у параўнаньні з мінулым годам. Адначасова канстатуе, што правядзеньне рашучых мер для паляпшэньня грамадзкага харчаваньня ідзе надта павольна і недастаткова грунтуецца на шырокай грамадзкасьці (рабочыя масы, гарсавет, прафсаюзы і г. д.).

2. Нарада лічыць асабліва важным паляпшэньне якасьці прадукцыі, якая вырабляецца ў сталоўках. Выходзячы з таго, што пры існуючай сыстэме зусім адсутнічае кантроль і адказнасьць за якасьць выпушчаемых страў, нарада лічыць неабходным прыступіць да арганізацыі гэтага кантролю.

3. Адказным за якасьць прадукцыі і бракоўшчыкам на кожным прадпрыемстве павінен быць старшы кухар (загадчык кухняй), які атрымлівае пэнсію па групе адм.-гасп. работнікаў тарыфнага справачніку (а не па зьдзельнай аплаце), якога, у выніку паляпшэньне якасьці вырабаў, зьмяньшэньне браку і псаваньня прадуктаў на кухні, неабходна прэміраваць. Пажадана, каб у буйных сталоўках (з водпускам ня менш 750—1000 абедаў) гэткія ня ўлічваліся як рабочая сіла, пры чым сумяшчалі-б у часе абедаў абавязкі кантролю над якасьцю выхаду і водпуску прадукцыі, і адказнага за навучаньне вучняў.

4. Неабходна, для спасабленьня ўзмацненьню працоўнай дысцыпліны, рацыянальнаму скарыстаньню штату, утаненьню сабекаштоўнасьці, паляпшэньню якасьці страў, абслугоўваньню і зацікаўленнасьці рабочых, правесьці ўсюды нармаваньне працы ў сталовых, пры чым для найлепшай кулінарнай апрацоўкі прадуктаў неабходна, пры вызначэньні норм выпрацоўкі, абгаварыць спосабы апрацоўкі прадуктаў, парадак водпуску гатовых вырабаў і абслугоўваньня. Нарада лічыць недапушчальным зьявішча, калі, ганяючыся за павялічэньнем выпрацоўкі, пагаршаецца якасьць апрацоўкі і абслугоўваньня.

5. Нарада адзначае, што на стан якасьці вырабаў маюць уплыў наступныя абставіны: а) сталоўкі не заўсёды забясьпечваюцца дабраякасным высокагатунковым сырцом; б) апрацоўка прадуктаў вытвараецца ў неадпавядаючых патрабаваньням санітарыі і гігіены памяшканьнях і пасудзе; в) раздача гатовага прадукту вытвараецца нявопытнымі рабочымі; г) што адсутнічае нагляд за правільным разьмеркаваньнем прадуктаў па асобным стравам пасьля выдачы з кладовай; д) тое, што дрэнна пастаўлены транспарт прадуктаў, у прыватнасьці

мясных (бруд, бітае мяса і г. д.) і дрэнна захоўваюцца ў самой сталоўцы.

З надворнага боку на адносіны да абедаў мае ўплыў ня чыстата, ня гігіенічнасьць і неарганізаванасьць падачы; нячыстата, сьцісласьць залі для абедаючых і недастатковая вэнтыляцыя; зьявішча грубасьці пры падачы, вялікія чаргі ў касы і доўгае чаканьне абедаў.

ЦРК павінны абавязкова ўскласьці асабістую адказнасьць на загадчыка сталоўкі і старшых па цэху за зьнішчэньне гэтых недахопаў. Неабходна забараніць курэньне ў сталоўках.

6. Пытаньне цэн на абеды мае значны ўплыў на справу разьвіцьця грамадзкага харчаваньня і загрузку існуючых прадпрыемстваў. Па гэтаму неабходна, побач з захаваньнем сярэдніх існуючых цэн і накідак на няпайшчыкаў, правесьці наступнае: а) абавязковы водпуск абедаў на-дом па зьніжанай цане і імкнуцца да водпуску сьвежага паўфабрыкату; б) адпускаць абеды і асобнымі стравамі і ў сталоўках не перашкаджаць на 1 абед браць лішні прыбор з мінімальнай даплатай; в) арганізаваць водпуск розных вырабаў кухні ў гігіенічнай пасудзе ў гастранамічных магазынах, буфэтах, ларкох і латкох.

7. Нарада лічыць мэтазгодным і магчымым увядзеньне дыэтычнага і, як часткі яго, вэгетарыянскага харчаваньня, шляхам адчыненьня асобных дыэтычныя і вэгетарыянскіх сталовак, або арганізацыі такіх аддзяленьняў пры агульных сталоўках, пры чым, для больш рацыянальнай арганізацыі гэтага харчаваньня, неабходна зьвязацца з воргамі аховы здароўя, якія павінны ўстанавіць санітарны нагляд у дыэтычных сталоўках, або аддзяленьнях.

8. Дзеля зьнішчэньня дэфіцітнасьці нарада зьвяртае ўвагу на неабходнасьць рашучага зьмяншэньня накладных выдаткаў, зьмяншэньня бою пасуды (увесьці лепшай якасьці пасуду, у большай колькасьці, больш асьцярожныя да яе адносіны), сваечасовай загатоўкі і забесьпячэньня сталовых прадуктамі, шляхам сваечасовага заклюнэньня дагавароў на пастаўку, зьмяншэньня налічэньняў на цэнтральны апарат, арганізацыі скарыстаньня ўсіх адходаў (пры магчымасьці арганізаваўшы пітомнікі), узмацненьня мэханізацыі сталовак і г. д.

9. Адзначаючы значнае пашырэньне абслугоўваньня вайсковых, нарада лічыць неабходным далейшае пашырэньне і паляпшэньне іх абслугоўваньня. Зьвярнуць увагу на неабходнасьць пашырэньня абслугоўваньня сэзоньнікаў і будаўнікоў гарачымі абедамі, і на паляпшэньне абслугоўваньня ў фабрычна-заводзкіх разьмеркавальных пунктах рабочых, прыстасаваўшы час прывозу абедаў да іх магчымасьцяў, больш разнастайваць абеды, устанавіць даступныя цэны, прымянаць крэдытаваньне рабочых, выдачу абанэмэнтаў і г. д.

10. Нарада лічыць ненармальным зьявішчам несваечасовае і няпоўнае скарыстаньне машын і мэханізацыі, а таксама нядбайныя да іх адносіны (адсутнічаньне пэўных людзей, працуючых на іх, нядбайны ўход, нязмазка, дарэмны пуск машын на рабочым хаду) і лічыць неабходным гэтае зьнішчыць, устанавіўшы на кожным прадпрыемстве пэўных людзей, адказваючых за працу машын.

11. Нарада лічыць нермальным адсутнічаньне ў ЦРК вучоту вынікаў увядзеньня мэханізацыі, норм выпрацоўкі (эканомія, палепшаньне якасьці і зьмяншэньне браку і г. д.) і лічыць неабходным яго наладзіць.

12. Нарада адзначае, што ў большасьці ЦРК адсутнічае плянавасьць у працы па грамадзкаму харчаваньню і прапануе зараз-жа скласьці пляны з удзелам зацікаўленых арганізацый, а таксама пера-весьці сталоўкі на каштарыснае існаваньне, прадаставіўшы загадчыкам сталовак права і адказнасьць згодна пастаноў НКРСІ ад 19-V—28 г.

13. Нарада адзначае недастатковае санітарнае становішча сталовак і лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу на паляпшэньне яго. Неабходна выдаць абавязкова санітарныя правілы для кіраўніцтва ў сталоўках. Катэгарычна забараніць наведваньне рознымі асобамі, а таксама і штатам у неслужбовы час і без патрэбы месца згатаўленьня і раздачы абедаў.

Усе працаўнікі, якія маюць датычнасьць да харчоў, павінны па працы быць у чыстай спэцвопратцы.

Белрабсэкцыі выпрацаваць разам з ЦП Нархарч стандартную форму спэцвопраткі.

14. Нарада напамінае ЦРК аб неабходнасьці выканаць пастановы БРС аб грамадзкасьці ў сталовых і большаго ўцягненьня сталуючыхся ў справу кіраўніцтва і кантролю над працай сталовак, шляхам: а) скліканьня сходаў сталуючыхся; б) абгаварэньня і рэагаваньня на ўсе артыкулы ў друку аб недахопах у сталоўках; в) інфармацыі аб выкананьні паказаньняў у скарговых кнігах; г) арганізацыі лекцый пра значэньне харчаваньня.

Акрамя гэтага неабходна ў сталоўках мець газэты і адпаведную літаратуру па харчаваньні.

15. Неабходна, каб навукова-харчовы савет сапраўды прыступіў да працы і наладзіў сыстэматычнае навуковае вывучэньне справы грамадзкага харчаваньня ва ўсіх гарадох і прыцягненьне навуковых мэдычных і вопытных кулінарных сіл да кантролю над працай сталовак. Дзеля працы навукова-харчавога савету неабходна стварыць мінімальную грашовую базу.

16. Нарада адзначае недастаткова ўважлівыя адносіны адміністрацыі да вучнёўства і адсутнічаньне вытворча-тэхнічнай асьветы для дарослых рабочых; лічыць неабходным, каб адміністрацыя сталовак больш зьвярнулі-б увагі на вучнёўства, дзеля чаго неабходна арганізаваць: а) вячэрнія тэарытычныя курсы для вучняў і перараросткаў (у буйных гарадох); б) гурткі тэарытычнай кулінарнай навукі для дакваліфікацыі дарослых (кухароў і адміністрацыі).

Сродкі на ўтрыманьне курсаў павінны быць прадугледжаны ў каштарысах ЦРК. БРС паклапаціцца аб сваечасовай рассылцы праграм курсаў па ЦРК.

17. Нарада лічыць правільным арганізацыю НКАсьветы ўсебеларускіх курсаў кулінарыі; ЦРК павінны пасылаць на гэтыя курсы сваіх стыпэндыятаў.

Нарада лічыць неабходным павялічыць пасылку на адм.-гасп. курсы ў Маскву; аднак, улічваючы, што пасылка на курсы ў Маскву ня можа мець масавага характару, лічыць неабходным арганізацыю з боку БРС у 28-29 г. месячных курсаў для перападрыхтоўкі адміністратараў. Лічыць мэтазгодным арганізаваць у бягучым годзе экскурсію нізавых працаўнікаў сталовых у іншыя гарады СССР для азнаямленьня з працай сталовых і пераймааньня вопыту.

18. Адзначаючы занадта слабае становішча сталовых у раёнах, нарада лічыць неабходным наладзіць з боку БРС садзейнічаньне і кіраўніцтва іх працай.

19. Зьвярнуць увагу ЦРК і БРС на неабходнасьць устанаўленьня сваечасовай справаздачнасьці ў сталоўках. БРС з удзелам месц прапрацаваць пытаньне спрашчэньня сыстэмы вучоту і справаздачнасьці ў сталоўках і іх узаемаадносіны з цэнтральнай бухгальтэрыяй.

20. Нарада лічыць неабходным упарадкаваньне будаўніцтва сталовак, і іх мэханізацыі з тым, каб яно праводзілася эканомна і мэтазгодна. Усе праэкты будаўніцтва, мэханізацыі і інвэнтарызацыі сталовак, пасьля іх разглядаеньня на месцы, павінны разглядацца і зацьвярджацца Белрабсэкцыяй.

21. Нарада зьвяртае ўвагу ўсіх ЦРК на неабходнасьць большай увагі да працы вытворчых нарад, сваечасова давадзячы да ведама рабочых аб выкананьні пастаноў нарады і аб прычынах невыкананьня, калі гэткае маецца.

22. Нарада зьвяртае ўвагу БРС на неабходнасьць забесьпячэньня прадуктамі сталовак іншых арганізацый, не ўваходзячых у сетку коопэрацыі (студэнцкія і беспрацоўныя).

23. Неабходна пашырыць практыку высоўваньня рабочых і работніц, праз вытворчыя нарады, на адм.-гасп. працу ў сталоўках.

24. Белрабсэкцыі ўзмацніць кантроль над выкананьнем дадзеных дырэктыў і наладзіць жывое рэгулярнае кіраўніцтва сталовымі.

---

## Аб 5-ці гадовым пляне разьвіцьця грамадзкага харчаваньня.

1. Заслухаўшы даклад аб 5-ці гадовым пляне разьвіцьця грамадзкага харчаваньня, Усебеларуская Нарада па грамадзкаму харчаваньню адабрае яго і адзначае: а) сваечасовасьць і неабходнасьць стварэньня 5-ці гадовага пляну капітальнага будаўніцтва, б) што плян складзены па вучоце існуючай сеткі грамадзкага харчаньня, узросту патрэб у ім на падставе разьвіцьця прамысловасьці і новых кадраў рабочых.

2. Нарада лічыць неабходным далейшае ўдасканаленьне гэтага пляну на падставе ўказаньняў нарады і абмеркаваньняў на мясцох.

3. З мэтай папулярызацыі грамадзкага харчаваньня і яго далейшага разьвіцьця нарада лічыць неабходным далейшае шырокае абмеркаваньне пяцігодкі на коопэрацыйным і прафэсіянальным актыве.

4. Нарада лічыць неабходным, каб усе ЦРК склалі свае 5-ці гадовыя пляны разьвіцьця грамадзкага харчаваньня выходзячы з рэспубліканскага і з вучотам існуючай у іх сеткі.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пра абкладаньне прамысловым падаткам загатоўчай дзейнасьці спажывецкіх таварыстваў.

*Усім Акрфінаддзелам. Копія:—Белкоопсаюзу.*

Белкоопсаюз падаў у Наркамфін БССР скаргу, у якой паказвае, што на мясцох у абкладаньні загатоўчых опэрацый коопэрацыі з боку мясцовых падатковых органаў дапускаецца шэраг няправільнасьцяў, як-та:

1) абкладаюцца прам. падаткам загатоўкі збожжа, жывёлы і ўсялякае сыравіны, якія першасныя коопэратывы вытвараюць для сваіх саюзаў;

2) патрабуецца выбарка рэгістрацыйных пасьведчаньняў на скупку сыравіны для сваіх крам і

3) спэцыяльныя служачыя коопэратываў, якія вядуць загатоўкі, разглядваюцца, як прыватныя асобы і абкладаюцца прам. падаткам самастойна, незалежна ад абкладаньня коопэратыва.

Паведамляючы вас аб гэтым, Падатковае Кіраўніцтва прапануе вам зрабіць распараджэньне аб зьнішчэньні няправільнасьцяў у абкладаньні коопэрацыі, калі яны мелі ў вас месца.

Пры гэтым Падатковае Кіраўніцтва зварачвае вашу ўвагу на наступнае:

1. Нізавыя коопэратывы не павінны выбіраць рэгістрацыйных пасьведчаньняў і абкладацца прамысловым падаткам па загатоўкам збожжа, жывёлы і ўсялякае сыравіны, якую яны купляюць і прадаюць са сваіх крам, бо гэта будзе не скупка, а закупка для сваіх крам, якая пападзе ў абкладваемы зварот па продажу тавару са свае крамы.

2. Калі нізавая коопэрацыйная арганізацыя вядзе па заданьням вышэйстаячых коопэрацыйных арганізацый (Саюзаў) загатоўкі і загатоўленую сыравіну здае свайму Саюзу, нізоўка па гэтым апэрацыям не падлягае абкладаньню прам. падаткам.

3. Калі нізавая спажывецкая коопэрацыйная арганізацыя здае па даручэньню свайго Саюзу скупленую ёю сыравіну дзяржаўным установам за кошт Саюзу, яна не падлягае абкладаньню прам. падаткам, калі гэтыя апэрацыі праведзены па кнігах саюзу.

Як довад, што сыравіна здаецца дзяржаўным установам не непасрэдна, а за кошт свайго саюзу, і праводзіцца па яго гандлёвым кнігам, нізоўка павінна прадстаўляць падатковаму інспэктару адпаведнае пасьведчаньне свайго саюзу.

4. Калі нізавая коопэрацыя вытварае загатоўкі па непасрэдным умовам з дзяржаўнымі ўстановамі, яна павінна выбіраць рэгістрацыйнае пасьведчаньне на скупку і абкладаецца прам. падаткам па агульнай выручцы альбо па камісыйнай узнагародзе, у залежнасьці ад таго, зроблен ці не камісыйны дагавор.

5. Сапраўдныя служачыя коопэратываў, як працуючыя ў крамах, так і раз'ездныя, якія атрымоўваюць сталую пэнсію, а ў некаторых выпадках атрымліваюць як дадатак да асноўнае стаўкі заахвочваючую ўзнагароду (З. З. СССР 1927 г. № 34, арт. 357), праз якіх коопэратывы вядуць свае загатоўкі, не павінны рязглядвацца, як прыватныя гандляры і скупнікі і не павінны выбіраць рэгістрацыйныя пасьведчаньні і абкладацца прампадаткам незалежна ад абкладаньня самаго коопэратыву.

Адзнакам служачых павінна зьяўляцца выплата коопэратывам *страхавых узносаў за сваіх загатоўшчыкаў*, прычым належнасьць да саюзу не патрабуецца. Трэба толькі пільна сачыць, ці не займаюцца паказаныя асобы скупкай не толькі для коопэрацыі, але і для сябе, і ці сапраўды яны здаюць сыравіну коопэрацыі па тэй самай цане, па якой купілі.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР (*Рэксьцін*).

№ 3121 ад 13-XI—28 г.

---

## Аб пакараньнях за несваечасовае прадстаўленьне зьвестак і справаздач.

(З пастановы ЦВК і СНК БССР пра зьмену арт. 118 К. К.).

«118. Непаданьне службовымі асобамі па патрабаваньні цэнтральных альбо мясцовых органаў улады ў тэрмін патрэбных гэтым органам зьвестак, даведак, справаздач і інш., якія яны павінны даваць паводле закону, калі няма прымет злачынстваў, прадугледжаных першымі часткамі артыкулаў 107 і 108 гэтага Кодэксу, выклікае— прымусовыя работы да аднаго месяца альбо звальненьне з пасады з забаронай служыць на адказных пасадах у дзяржаўных, грамадзкіх і коопэрацыйных установах і прадпрыёмствах да двух гадоў ці без такой забароны, альбо забарону служыць на адказных пасадах у дзяржаўных, грамадзкіх і коопэрацыйных установах і прадпрыёмствах да двух гадоў, альбо грамадзкае ганьбаваньне.

Увага. За недагляды і правіннасьці, прадугледжаныя гэтым артыкулам, службовыя асобы караюцца паводле палажэньвя аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці, калі па важнасьці гэтых недаглядаў і правіннасьцяй асобы і органы, якія маюць права накладаць дысцыплінарныя пакараньні. судова-сьледчыя органы, пракурорскі нагляд ці Рабоча-Сялянская Інспэкцыя, палічаць, што трэба караць ня ў судовым, а ў дысцыплінарным парадку".

Час. вык. абав. Старшыні ЦВК БССР *А. Хацкевіч*.
Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *М. Галадзед*.
За Сакратара ЦВК БССР *А. Сташэўскі*.

28 ліпеня 1928 г. г. Менск.

Апублікавана ў № 182 газэты «Савецкая Беларусь» за 9 жніўня 1928 г.

ТЛУМАЧЭНЬНі: 1) Па гэтаму артыкулу прыцягваюцца да адказнасьці і працаўнікі коопэрацыйных арганізацый за непрадстаўленьне зьвестак і справаздач БКС, бо гэтыя зьвесткі патрабуюцца ад іх для органаў улады.

2) Пакараньні за гэтыя праступкі накладаюцца ў дысцыплінарным парадку асобамі і ўстановамі, якія назначылі віноўнага на пасаду, і вышэйстаячымі асобамі і ўстановамі альбо перадаюцца імі ў крымінальны суд.

## Пра зацьверджаньне палажэньня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці.

(Пастанова ЦВК і СНК БССР).

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць скасаваць пастанову ЦВК і СНК БССР з 10 ліпеня 1925 году «Аб дысцыплінарным пакараньні службовых асоб дзяржаўных і прыроўненых да іх устаноў і прадпрёмстваў» (З. З. БССР 1925 г., № 32, арт. 295) і зацьвердзіць наступнае

**Палажэньне аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці.**

1. Дысцыплінарныя пакараньні ў парадку гэтага палажэньня накладаюцца на ўсіх службовых асоб за ўчыненыя імі недагляды і правіннасьці, непрадугледжаныя правіламі ўнутранага парадку, тады калі па важнасьці гэтых недаглядаў і правіннасьцяй асобы і органы, якія маюць паводле гэтага палажэньня права накладаць дысцыплінарныя пакараньні, альбо судова-сьледчыя органы, пракурорскі нагляд ці Рабоча-Сялянская Інспэкцыя палічаць, што трэба караць ня ў судовым, а ў дысцыплінарным парадку.

Увага. Пад службовымі асобамі разумеюцца асобы, якія займаюць сталыя альбо часовыя пасады ў дзяржаўнай грамадзкай альбо кооперацыйнай установе ці прадпрёмстве.

2. Дысцыплінарныя пакараньні накладаюцца:

а) службовымі асобамі і органамі, якія назначаюць альбо выбіраюць на даную пасаду, а калі назначэньне альбо выбар павінны зацьвярджацца службовымі асобамі і органамі, ад якіх залежыць зацьвердзіць на данай пасадзе;

б) усімі службовымі асобамі і органамі, якія стаяць над асобамі і органамі, паказанымі ў пункце «а» гэтага артыкулу.

Увага. Дысцыплінарныя пакараньні на членаў калегіі абаронцаў накладаюцца акруговым выканаўчым камітэтам.

3. Паводле гэтага палажэньня могуць накладацца наступныя дысцыплінарныя пакараньні: а) выгавар; б) выгавар з папярэджаньнем; в) перамяшчэньне на іншую пасаду па згодзе з РКК, а для членаў калегіі абаронцаў забарона выступаць на судзе на тэрмін да шасьці месяцаў; г) звальненьне з пасады па згодзе з РКК, а для членаў калегіі абаронцаў выключэньне з калегіі з забаронаю на працягу 2 гадоў увайсьці ў калегію абаронцаў.

4. Справа аб дысцыплінарным пакараньніі ня можа быць паднята, а паднятая справа павінна быць спынена, калі ад часу ўчыненьня недагляду альбо правіннасьці да моманту падняцьця справы прайшло больш за шэсьць месяцаў. Калі асоба, што зрабіла ўчынак, які выклікае дысцыплінарнае пакараньне, ужо ня служыць у данай установе альбо прадпрыёмстве, то дысцыплінарнае пакараньне па прапанове кіраўніка гэтай установы ці прадпрёмства можа быць назначана органам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.

Увага. Час вядзеньня справы ў судова-сьледчых органах у паказаны ў гэтым артыкуле тэрмін не залічваецца.

5. Дысцыплінарныя пакараньні накладаюцца толькі пасьля запатрабаваньня ад асобы, якая прыцягваецца да адказнасьці, аб'ясьненьняў. Гэтыя аб'ясьненьні павінны быць дадзены не пазьней тыднёвага

тэрміну ад дня атрыманьня патрабаваньня. Непадача аб'ясьненьняў у гэты тэрмін не прыпыняе вырашэньня пытаньня аб накладаньні дысцыплінарнага пакараньня.

6. Пастанова аб накладаньні дысцыплінарнага пакараньня можа быць абскарджана вышэйшаму над наклаўшым пакараньне органу альбо асобе, рашэньне якіх зьяўляецца канчатковым: а) асобаю, на якую накладзена пакараньне, на працягу месяца ад дня паведамленьня яе пра накладаньне пакараньня і б) органамі пракурорскага нагляду, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і прафэсыянальнымі органамі на працягу месяца ад дня вынясеньня пастановы. Абскарджаньне пастановы не прыпыняе яе выкананьня, апроч выпадкаў накладаньня пакараньня, паказанага ў п. «г» арт. 3.

7. Пастанова пра накладаньне дысцыплінарнага пакараньня абвяшчаецца ва ўстанове альбо прадпрыёмстве, у якіх працуе пакараны.

8. Калі на працягу аднаго году пасьля дысцыплінарнага пакараньня на тую самую асобу ня будзе накладзена новае дысцыплінарнае пакараньне, то пастанова аб накладаньні дысцыплінарнага пакараньня траціць сілу, і пакараная асоба лічыцца непакаранаю.

9. Гэтае палажэньне не пашыраецца на асоб, якія адбываюць абавязковую вайсковую службу і знаходзяцца ў шэрагах Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, таксама на працаўнікоў міліцыі, месц зьняволеньня і Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы. Дысцыплінарная адказнасьць паказаных асоб вызначаецца спэцыяльнымі законамі.

Час. вык. абав. Старшыні ЦВК БССР *А. Хацкевіч.*

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *М. Галадзед.*

За Сакратара ЦВК БССР *А. Сташэўскі.*

28 ліпеня 1928 г. г. Менск.

Апублікаваны ў № 179 газэты „Савецкая Беларусь" за 4 жніўня 1928 г.

## Пра устанаўленьне гранічных надбавак пры прадажы хлеба мясцовай загатоўкі.

*(Зацьверджана НКГандлем БССР ад 20/X-28 г.).*

Прапануецца дзяржаўным і коопэрацыйным загатоўцам пры прадажы хлеба мяйсцовай загатоўкі выходзіць з устаноўленых НКГандлем СССР гранічных прадажных цэн—Франко вагон ст. назначэньня Беларусь на завазімую жытную абойную муку (1 р. 65 к. пуд для ільнаводных акруг і 1 р. 70 к. для не ільнаводных) за выключэньнем кошту перапрацоўкі жыта ў абойную муку і кошту правозу па чыгунцы ад месца адпраўкі да месца назначэньня,—а для Белкоопсаюзу, які ня плоціцьураўзбору пры продажы сваей пэрыфэрыі,—акрамя выключэньня кошту паказаных выдаткаў, яшчэ належыць выключыць з устаноўленых прадажных цэн на жытную абойную муку кошт ураўзбору.

Пры прадажы хлеба мясцовай загатоўкі Віцебскаму, Полацкаму, Аршанскаму і Магілеўскаму ЦРК выходзіць з цаны 1 р. 70 коп. пуд жытнай абойнай мукі франко вагон ст. назначэньня, як і для неільнаводных раёнаў.

# ЗЬМЕСТ

Стар

## Дырэктывы Белкоопсаюзу



## Дырэктывы Белрабсэкцыі



## Афіцыйны аддзел



---

## АД РЭДАКЦЫІ.

**У наступным 6-7 № „Інформацыйнага Бюлетэню Белкоопсаюзу“ будуць надрукована ўсе пастановы Ўсебеларускай Оргнарады спажывецкай коопэрацыі; нумар выйдзе ў канцы гэтага месяца.**

Цана 15 кап.



Менск, друкарня „БДВ“, з. № 551. Галоўлітбел № 292.—900 экз.

